ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 2 (2581)
ПЯТНІЦА
14
студзеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Гэты эцюд захоўваецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Ён даўно ўжо ўключаны ў пастаянную экспазіцыю твораў беларускага савецкага выяўленчага мастацтва. Аўтар гэтага эцюда, напісанага ў 20-я гады, — адзін са старэйшых жывапісцаў Савецкай Беларусі Міхась Пятровіч Станюта, чыя персанальная выстаўка твораў экспануецца цяпер у выставачнай зале Саюза мастакоў БССР у сувязі з 90-годдзем мастака.

А з каго пісаны эцюд! Ён называецца «Партрэт дачкі»... Так, гэта дачка мастака — цяпер народная артыстка БССР Стэфанія Міхайлаўна Станюта.

Роздум мастацтвазнаўцы Б. Крэпака пра творчасць М. Станюты чытайце на стар. 10.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

Бярозкі шэпчуцца на беразе,
Размову дзіўную вядуць.

У іх сукенкі зззяюць золатам.
Над імі сонца, як пірог.
Стаіць на шлем падобны
волата,
За рэчкай адзінокі стог.

На ўзгорку дуб гамоніць
з высямі.
І я суцішваю хаду:
Лядок каровы ломяць пысамі
І п'юць сцюдзёную ваду.

## Алесь РАЗАНАЎ

## ПЕРШАПРАХОДЦЫ

У позірку—сляза і хмель...
Насустрач страце і знаходцы
углыб нязведаных земель
ішлі чуць свет першапраходцы.

Перабіваліся б такі...
У дол глядзелі, а не ў высі!..
З куткоў абжытых узняліся,
пашыбавалі напрасткі.

З-за сосен сонейка ўсплывала,
не забаяўшыся аблок,
хаця ў кішэнях пуставала,
ды раскашэльваўся аблог.

Дзе вы цяпер,
першапраходцы?
Ваш крок груваcткі не чуцён.
Вы загубіліся ў паводцы,
у веснавым буянні дзён.

Адпрацаваўшы, на спачын,
ледзь цені чуйныя пабеглі,
не засмучоныя нічым,
нічым не ўцешаныя леглі.

Але праз веянне начэй
у нейкі момант недзялімы—
любоў... смуга...—
да іх вачэй
цішком схілялася Радзіма.

## Уладзімір ФАМІН

## СВЕТЛАГОРСК

З нараджэння тут усё сучаснае:
Ёсць праспект,
На кожным кроку гмах,
Ёсць палац свой,
Ёсць «пакоі шчасця».
Толькі абібокаў тут няма.

Тут усе —
Заўзятыя рамантыкі,
Хлопцы і дзяўчаты —
Нападбор.
Вабяць іх далёкія галактыкі,
Ім з зямлі падаць рукой
Да зор.
Што падаць!..
Яны трымаюць зоры,
Сотні зор
У маладых руках.
Выйдзі ўночы,
Паглядзі на горад—
Ён у белым полымі—
У агнях.

## ЗАЗІМАК

Як пепін-шафранны,
Ружабокі
Сёння ўпаў снягір
на мой балкон.
Аб яліну
снежныя аблокі
Разарвалі шэры парасон.

Сыпнуў снег.
Бы белая папера,
Стала поле.
Пасівеў лясок.
І лісіца
на старонцы першай
Напісала роўненькі радок.

ПРАБЛЕМЫ РОЗДУМ, МЕРКАВАННІ

Н. ВАРВАШЭВІЧ,
рэжысёр Слонімскага
народнага драматычнага тэатра

# ШУКАЦЬ...

...АЎТОБУС кідае з боку на бок. А зверху стукае дождж. Дзьме праніззлівы вецер. Дарогі няма—суцэльны паток вады. Крыху звернеш убок—загразнеш. А ў клубе вёскі Азярніца, да якой кіламетраў трыццаць ад райцэнтра, калгаснікі чакаюць нашага прыезду.

У аўтобусе холадна.

— Чаго маўчым? — нечакана пытаецца Феафанія Лявонцеўна. «Чаму ж нам ня пець... — зацягвае яна, — Чаму ж ня гу-дзець...»

Нечаканы штуршок і — матор глухне. Анатоль Цярэнін праціpae акно.

— Канава, давядзецца разок штурхнуць.

Мужчыны выходзяць на гразкую дарогу.

— Кожны раз што-небудь не так, — уздыхае Кацярына Фёдараўна. — Калі дарогі палепшаюць?

— Калі пакінеце тэатр, — у тон ёй адказвае нехта.

Усе смяюцца.

— Ні за што на свеце! — усміхаецца Кацярына Фёдараўна.

Такі выпадак — звычайны для будняў Слонімскага тэатра. Дванаццаць гадоў існуе ён як народны тэатр, паставіў за гэты час каля трыццаці п'ес, сыграў іх больш 700 разоў.

Жывучы ў раённым горадзе з яго трыццацітысячным насельніцтвам, мы цесна звязваем сваё жыццё з сялом і стараемся, каб на выездах спектаклі ішлі на тым жа ўзроўні, што і на асноўнай сцэне, — у тым жа афармленні, грыме, касцюмах. А кожны ж выезд тоіць у сабе нечаканыя ўскладненні: то машына па кузаў у гразі засядзе, то клуб не абагрэюць, то пачатак спектакля аднясуць на дванаццатую гадзіну ночы, пасля справаздачна-выбарчага сходу калгаснікаў, то нехта раптам захварэў.

...І тым не менш кожны выязны спектакль праходзіць дакладна, па раз і назаўсёды заведзеным парадку. Артысты ведаюць пра выезд за тры-чатыры дні. Раніцай, у дзень спектакля, выязджае загадчык пастановачнай часткі, рыхтуе дэкарацыі. А ўвечары аўтобус з акцёрамі і рэжысёрам адпраўляецца з такім разлікам, каб прыехаць туды за паўтары гадзіны да спектакля. Гэтага часу дастаткова, каб «сабрацца», адзецца, загрыміравацца. А пасля спектакля частка акцёраў пад кіраўніцтвам касцюмера (штатнай адзінкі РДК) укладвае касцюмы, прыбірае грыміровачную, а частка — прыбірае і ўпакоўвае афармленне. Усё робім разам. Дамоў прыязджаем далёка за поўнач. Вядома, вельмі стамляемся. Але ні разу ніхто не сказаў: «Я не паеду».

Даводзіцца іншы раз чуць аб тым, што ў народных тэатрах неабходна дубліраванне роляў, стварэнне двух-трох саставаў. Я лічу, што да гэтага пытання трэба падыходзіць асцярожна, таму што адзін радуецца дублёру, а другі выступае супраць яго. Паверце на слова: у нас у тэатры няма прэм'ерства. І ўсё роўна я не кожнаму выканаўцу дам дублёра . Не бачу ў гэтым патрэбы. «Паўлінку» Янкі Купалы мы сыгралі 96 разоў, і ўсё адным саставам. Давайце ўспомнім і пра тое, што часта прафесійныя акцёры «знаходзяць» ролю толькі ў дзесятым—пятнаццатым спектаклі. Навошта ж пазбаўляць такога права артыста народнага тэатра? Чым часцей ён іграе ролю, тым лепш. Ці гэта не вучоба, не спосаб павысіць майстэрства? Да таго ж пры дубліраванні зацягваецца і выпуск спектакля.

Працуючы па плане, мы ўвесь сезон дзелім на асенне-зімовы і вясенне-летні. На першы даводзіцца крыху менш спектакляў, затое больш інтэнсіўна вядзецца падрыхтоўка новых пастановак.

У сярэдзіне лета мы ўсе стараемся адначасова ісці ў адпачынак. У гэтым нам аказваюць дапамогу райком партыі, райвыканком і гарвыканком.

Наш тэатр аб'ядноўвае ў сваім калектыве адданых аматараў тэатральнага мастацтва. Для многіх народны тэатр стаў другім домам. Я часта здзіўляюся, якая моцная ў іх любоў да мастацтва.

На самай справе. Прыйшоў чалавек у народны тэатр. І, натуральна, ён хоча іграць. Калі не галоўныя, то, у кожным разе, цікавыя ролі. І раптам яму кажуць, што трэба... вучыцца гаварыць, хадзіць па сцэне. Вучыцца многаму іншаму. Той, хто лічыць, што сцэна — гэта толькі апладысменты і кветкі, пойдзе або, як кажуць, «адсеецца». Артыстам народнага тэатра будзе толькі той, каму не страшны ўпарты, да знямогі трэнаж, доўгая падрыхтоўчая і рэпетыцыйная работа—адным словам, уся «кухня», у якой варыцца «каштоўны сплаў» спектакля. Менавіта да такіх людзей, якія хочуць зразумець «сцэнічную азбуку», прыходзіць, як вынік, і радасць творчасці.

Кіраўніцтва самадзейным мастацтвам — работа тонкая, далікатная. Кожны спектакль павінен выхоўваць не толькі акцёра, але і чалавека-грамадзяніна. За звычайнымі рэжысёрскімі клопатамі — як правільна размеркаваць ролі, як загрузіць усіх у поўную меру магчымасцей — важна не ўпусціць гэтай галоўнай задачы. Чарговая пастаноўка павінна бударажыць калектыў, ставіць перад ім новыя, больш цяжкія мэты. І калі нават іх не ўдаецца дасягнуць у поўнай меры, дык карысць прынясе ўжо самы шлях да іх.

Калі мы, рэжысёры народных тэатраў рэспублікі, збіраемся на свае семінары, якія праводзіць Рэспубліканскі дом народнай творчасці сумесна з Беларускім рэспубліканскім тэатральным аб'яднаннем, мы даволі многа і шырока абмяркоўваем розныя бакі жыцця нашых народных тэатраў. Але, бадай, больш за ўсё мы гаворым аб праблеме рэпертуару і працэсе работы над спектаклем.

Рэпертуар — першае, у чым выяўляецца мастацкі густ калектыву і яго адчуванне часу.

Выбар п'есы — гэта цэментуючы раствор, які змацоўвае, згуртоўвае калектыў. Гэта яго думкі, яго творчае і жыццёвае крэда.

У розны час тэатр паставіў «Любоў Яравую» К. Трэнёва, «Юнацтва бацькоў» Б. Гарбатава, «Апошніх» М. Горкага, «Барабаншчыцу» А. Салынскага, «Глыбокую плынь» І. Шамякіна, «Запомніце іх імёны» Салюка... Паралельна з такімі творамі тэатр ставіў п'есы камедыйныя: «На бойкім месцы» А. Астроўскага, «Паўлінку» Я. Купалы, «Дзіўнага доктара» А. Сафронава... Хочацца думаць, што работа над такім рэпертуарам зрабіла ўплыў на кожнага акцёра. Мне здаецца, у тым, што Е. Палішчук (яна ўжо дваццаць тры гады працуе ў тэатры), прайшла шлях ад школьніцы да дырэктара школы, ёсць заслуга і тэатра, дзе кожная новая работа, кожная новая роля ўзбагачала яе ўнутраны свет.

Думаю, што атмасфера пастаяннай вучобы садзейнічала і творчаму росту настаўніцы Ф. Ракевіч, рабочага, цяпер загадчыка пастановачнай часткі тэатра К. Ярашчука, загадчыцы гарадской дзіцячай бібліятэкі Г. Малкінай, ветурача А. Маліка, інспектара аддзела культуры Л. Завадскай, якія працуюць у тэатры ўжо больш як дзесяць гадоў.

І вось тут узнікае пытанне, якое даўно хвалюе мяне: што такое п'еса «па магчымасці калектыву».

Мне здаецца, што вельмі часта гэтай фармуліроўкай прыкрываецца нежаданне ісці наперад. Сапраўды, прасцей браць для пастаноўкі п'есу, якая нічога не патрабуе ад выканаўцы, за выключэннем больш-менш праўдзівага паказу самых сябе або ўжо звыклых умоўна-тэатральных характараў. І гэта шкодна ў той жа ступені, як і бяздушны зварот да любой п'есы, якая спадабалася рэжысёру, незалежна ад таго, ці ёсць рэальная аснова для работы над ёй ці няма.

Я ўпэўнены, што абавязкова трэба ўлічваць усе рэальныя магчымасці; гэтак жа неабходна ўмець бачыць перспектыву развіцця калектыву, і кожную п'есу выбіраць з улікам гэтай перспектывы. Тады кожная п'еса будзе новым рубяжом, новым этапам. Каб узяць гэты рубеж, трэба здзейсніць скачок наперад, а не проста пераступіць з нагі на нагу.

Кожны народны тэатр, не парушаючы, зразумела, агульных законаў стварэння спектакля, па-свойму працуе над драматургічным матэрыялам, зыходзячы з канкрэтных умоў свайго існавання. Але ў кожнага рэжысёра ёсць магчымасці для скарачэння застольнага перыяду, павелічэння «хатніх заданняў» і індывідуальных рэпетыцый для таго, каб акцёр быў больш на сцэне нават па-за вобразам, у моманты работы з іншымі выканаўцамі. На маю думку, гэта дапамагае пазбавіцца ад «фізічнай зацісннутасці» — ворага нумар адзін самадзейнага акцёра.

У апошні перыяд мы вырашылі рэзка скараціць застольны перыяд. Ці не значыць гэта «абкрасці» сябе з пункту гледжання ідэйнага разбору п'есы, характараў персанажаў і г. д.? Думаю, што не. І вось чаму. Мы фактычна не так скарачаем застольны перыяд, як сумяшчаем яго з рэпетыцыямі на сцэне. Бо ўсё, што па логіцы стварэння спектакля кладзецца на застольны перыяд, непазбежна паўтараецца, удакладняецца, высвятляецца на працягу ўсёй работы над п'есай і асабліва ў час знаходжання акцёра ў мізансцэне.

Вы скажаце, што пры такой сістэме рэпетыцый элементамі акцёрскага майстэрства даводзіцца займацца толькі ў моманты непасрэднага стварэння вобраза? Так. І мне здаецца, у народным тэатры гэта найбольш дзейсны спосаб навучання.

Да нас у тэатр прыходзяць самыя розныя людзі. У адрозненне ад прафесійнага тэатра сюды прыходзяць і здольныя, і тыя, хто асаблівых здольнасцей не мае. І тыя, і другія, як правіла , недастаткова падрыхтаваны, каб актыўна ўключыцца ў творчы працэс. Разам з тым усіх гэтых людзей аб'ядноўвае цікавасць да тэатра.

Вось і трэба пастарацца накіраваць гэту цікавасць у правільнае рэчышча, раскрыць перад удзельнікамі калектыву цудоўны свет мастацтва, навучыць іх самастойна мысліць, шукаць.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**




*ГУМАРЫСТЫЧНАЯ СЦЭНКА*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:
**Юрыст і Кліент.**

**Дзея адбываецца ў канторы юрыдычнай кансультацыі.**

Кліент. Добры дзень у хату...

Юрыст. Прывітанне. Праходзьце, калі ласка. Сядайце.

Кліент (*уладкоўваецца ў крэсле*). Мяне прывялі да вас роспач і адчай.

Юрыст. Здагадваюся. Хочаце скасаваць шлюб?

Кліент. Іменна. Жыцця не стала...

Юрыст. Давайце бліжэй да справы. На якія рыфы наскочыў ваш сямейны карабель?

Кліент. Каб жа нарыфы, любы чалавек! На маім караблі піраты, вось што! І я ўжо даўно не капітан, а брудны качагар, якому загадалі адно: давай вугалю і пары. Я маю на ўвазе грошы...

Юрыст (*задуменна*). Ці вы адзін...

Кліент. Што вы сказалі?

Юрыст (*схамянуўшыся*). Але ж сям'і і сапраўды грошы патрэбны. Кватэра, дзеці, газ, харч...

Кліент (*іранічна ўсміхаецца*). Я бачу, вы мяне не зусім разумееце. Самі вы чалавек жанаты?

Юрыст. Дзесяць гадоў.

Кліент. Цешча з вамі жыве?

Юрыст. Так, але я...

Кліент. Але вы сцялі зубы і маўчыцё. А ўспомніце, колькі разоў на тыдні вам нагадваюць, што вы такой прыгожай, разумнай, добрай жанчыне сапсавалі жыццё, што яна, дурніца, дарэмна не выйшла замуж за Васю...

Юрыст (*крыху разгублена*). За Альфрэда...

Кліент. За Альфрэда, які яе так кахаў, так кахаў! Альфрэд даўно выйшаў у начальнікі, шыкуе ў шасціпакаёвай кватэры, мае «Жыгулі», а жонку апранае ў норку. Ваш сын адхапіў кол па алгебры, адпусціў да плеч валасы і цішком курыць, а прычынай ваша дурная спадчына, адсутнасць у вас педагагічных здольнасцей і ваша жудаснае раўнадушша да сям'і. А вы сам? Вы ж — п'яніца! Божа, божа! Мінулым тыднем вы прыпляліся «пад градусам», а заявілі, што выпілі толькі куфаль піва. І гэта ў той час, калі ў жонкі мігрэнь, у цешчы грып, а ў сына новыя непрыемнасці ў школе.

Юрыст (*зусім разгублена*). Я хадзіў у школу...

Кліент. Дзеля адчэпнага. А гарнітур? Паглядзіце, які ў вас гарнітур? Суседзі цішком пасмейваюцца, жонцы і цешчы сорам гасцей запрасіць, а вам хоць трава не расці. Сапраўдныя мужчыны могуць рабіць і зарабіць, а вы — цямця-лямця! І ўсё гэта вам гавораць штодзённа, кожную гадзіну і нават ноччу... А ўспомніце, як летась ваша жонка са сваёй такой хворай, такой хворай матуляй ездзіла на Чорнае мора. Як цэлы месяц яны плёхаліся ў цёплых хвалях, смакавалі вінаград, гранаты і абрыкосы, а вы ледзь не нажылі гастрыт у сталоўцы. Вы пасылалі ім грошы і як праклянёны сядзелі ў гэтай вузенькай, як труна, канторы над абрыдлымі паперамі. Не, так жыць далей нельга!

Юрыст (*абхапіўшы рукамі галаву*). Што ж рабіць? Дзе выйсце? Не магу ж я, так вось узяць і...

Кліент (*ускочыў з крэсла, патэтычна*). А чаму не?! Будзьце хоць раз мужчынам! Паглядзіце наўкола: якое цудоўнае кіпіць жыццё, як смяецца сонца ў рачных хвалях, як спявае вецер у верхавінах бяроз і таполяў, як усміхаюцца цудоўныя элегантныя жанчыны! Смялей, таварыш, шчасце чакае вас!

Юрыст (*падхапіўся з-за стала*). Усё! Я вырашыў! Так жыць далей нельга! Божа мой, які я быў дурань! Дзякуй вам, дзякуй!

Кліент (*ідзе да выхаду*). Няма за што. Я да вас праз месяц зазірну. Раскажаце, што і як. Тады, можа, і я...

Павел ТАЛКАЧОЎ

## ЗЛОДЗЕЙ-ЖАРТАЎНІК

Цётка Ганна, кладучыся спаць, чытала ўголас малітву:

— Усемагутны, ачысці душу маю грэшную...

А ў гэты час на гарышчы злодзей знімаў з шастка каўбасы. Пасля слоў цёткі ён не стрываў і ўсклікнуў:

— Ачышчу, ачышчу!!!

Пачуўшы голас з неба, узрадаваная цётка Ганна папрасіла:

— І душу сястры маёй Праскоўі ачысці...

— А гэта ўжо як паспею — адказаў жартаўнік-злодзей.

## СА СЛАВАЦКАГА ГУМАРУ

**ДЫЯЛОГІ**

— Прабачце, як бы вы назвалі чалавека, які ўвесь сеанс сядзіць на чужым капелюшы?
— Я назваў бы яго нявыхаваным хамам, дурнем...
— Дык вы сядзіце на маім капелюшы.

□

У рэстаране.
— Мне вельмі прыемна, што вам падабаецца наша страва. Закажаце яшчэ?
— Хіба толькі паўпорцыі. Палавіну бульбіны і палавіну качкі.

□

— Скажыце, калі ласка, чаму вы хочаце развесціся?
— Таму, што я жанаты.

□

— Ах, сынок, лайдаком ты расцеш, гультаём! А ведаеш, колькі мне каштуе твая вучоба?
— Вось бачыш, тата. А я яшчэ не вельмі моцна вучуся!

□

— Прабачце, пані, вы не бачылі часам такога маленькага, тоўстага, непрыгожага чалавека?
— Не, вашага мужа я не бачыла.

□

— Янка, дык ты не ведаеш, калі Калумб адкрыў Амерыку! А ў падручніку ж выразна напісана побач з прозвішчам Калумба — 1492.
— А-а-а! Я думаў, што гэта нумар яго тэлефона.

□

— Сёння мы з жонкай шукалі капялюш — такі, каб не вельмі дарагі, не абавязкова модны і каб вытрымаў яшчэ некалькі гадоў.
— Не паверу! Такіх жанчын няма на свеце...
— Чаму? Капялюш жа шукалі мне.

Пераклаў са славацкай А. МАЖЭЙКА.






*Нехта з вялікіх сказаў: «Іскрынкі смеху павінны стаць упрыгожаннем нават высокай трагедыі...»*
*Згадзіцеся, што ў вытворчасці кінафільмаў таксама шмат «драматычных» сітуацый, якія заслугоўваюць усмешкі.*
*Дык чаму б і не паўсміхацца са сваіх калег і з сябе!*

**Д. МІХЛЕЕЎ,**
кінарэжысёр.




По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымальнікі або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.









Індэкс 63856 АТ 01512